№ 87 (3828)

5 лістапада 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

### *Лукашэнка ў Туркменістане*

Учора А.Лукашэнка паляцеў у Туркменістан з афіцыйным візітам, які працягнецца і сёння. Па выніках перамоў плануецца падпісаць шэраг двухбаковых дакументаў аб развіцці супрацоўніцтва па розных напрамках.

Дарэчы, прэзідэнт Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедаў адсутнічаў на нядаўнім саміце ў Мінску. У беларускую сталіцу ён прыслаў віцэ-прэм'ераў. Туркменскі бок патлумачыў гэта тым, што прэзідэнт заняты працэдурамі падрыхтоўкі да Дня Незалежнасці краіны.

# Украінскія прадпрыемствы маюць магчымасць браць крэдыты пад 16—17 працэнтаў, а беларускія — пад 45—53 працэнты.

*Фантастычны банкаўскі прэсінг — прамы шлях да агольвання, вымывання абаротных сродкаў, банкруцтва беларускіх заводаў, фабрык, прадпрымальніцкіх суполак.*



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

## С неба на землю

Очередной саммит тройки государств Таможенного союза, как и ожидалось, не оказался судьбоносным.

Более того, независимая пресса долго иронизировала над высказываниями глав государств на саммите. Нурсултан Назарбаев утверждал, что Турция спит и видит, как бы это вступить в Таможенный союз (что турки быстро дезавуировали). Владимир Путин сообщил, что с инициативой создания зоны свободной торговли с Таможенным союзом к нему обращались некие представители руководства Индии — страны, как известно, с миллиардным населением и соответствующим рынком. Иными словами, Индия сама способна поглотить Таможенный союз без остатка. Еще ранее Александр Лукашенко заявлял, что Евразийский экономический союз и Европейский Союз станут примерно равновеликими. С вступлением туда Индии и воюющей Сирии — это уж точно.

Однако большего внимания, на мой взгляд, заслуживали события вокруг тихого визита в Беларусь миссии МВФ. Под этот визит правительство и Нацбанк Беларуси представили новую версию прогноза развития экономики страны в 2014 году. Первое, что бросается в глаза и что должно было привлечь внимание миссии МВФ, это то, что экономические власти показали более реалистичный план. Спустились, так сказать, с неба на землю. В частности, рост ВВП прогнозируется на уровне 2,4% вместо планируемых ранее 5,7%, инфляция на потребительском рынке ожидается 14,5%, хотя ранее закладывалась на уровне 11%, среднегодовой курс доллара пересмотрен с 9500 до 9800 рублей. Ставка рефинансирования Нацбанка должна составить к концу 2014 года 19—21%. Если экономические власти прогнозировали на будущий год профицит торгового баланса, то в новой редакции прогноза ожидают его дефицит в 1,9 миллиарда долларов.

Для сбалансирования внутреннего развития и снижения инфляции запланировано повышение реальной зарплаты всего лишь на 4%, тогда как рост производительности труда должен составить 6%. Впрочем, это правильное соотношение закладывалось и в прежних планах, но не выполнялось. Запланирована зарплата 628 долларов в эквиваленте (!), тогда как уже в августе она достигла 621 доллара. Если учесть, что за последние годы она в реальном измерении прибавляла по 20%, то, по сути, это можно трактовать как замораживание основного дохода населения. В то же время для решения задачи, поставленной еще ранее МВФ, по ликвидации перекрестного финансирования оплаты энергоресурсов и жилищно-коммунальных услуг, которые субсидируются населению за счет юридических лиц и бюджета, предполагается довести возмещение этим населением затрат на ЖКУ до 50%. За счет чего, спрашивается, если зарплата практически не увеличится? Наверное, прогноз делался в спешке.

В проекте устанавливается показатель по привлечению прямых иностранных инвестиций в размере 2,4 миллиарда долларов. Это уже не соотносится с ранее обнародованной фантастической цифрой приватизации госимущества на 4,5 миллиарда и все-таки оставляет вопросы, поскольку этот параметр всегда по-крупному не выполняется. В прогнозе говорится о создании новых рабочих мест и о многом другом, как отметили представители МВФ, хорошем и правильном, то есть написанном в нужном направлении. Но главная цель, как и предвидели аналитики, оказалась недостигнутой. МВФ не стал обсуждать с белорусскими властями подготовку новой кредитной программы. Было лишь заявлено, что вероятность этого в будущем сохраняется.

Возможно, дело и не в том, что МВФ не признал представленный прогноз разумным планом структурного реформирования белорусской экономики. А в том, что предлагаемое реформирование, как и ранее, носит бюрократический характер. Как и ранее, гладко пишут на бумаге. Здесь и либерализация цен (на практике правительство то расширяет, то сокращает перечень ценовых позиций, который оно контролирует), и отмена директивных ростовых показателей (они таковыми и остаются), и обещание стопроцентного покрытия населением жилищно-коммунальных услуг (сегодня покрываем не более трети). Еще ранее по предложению МВФ было создано Национальное агентство по приватизации, но процесс приватизации так и не развернулся. Был создан Банк развития, но он не столько взял на себя "плохие" кредиты госбанков, сколько влился в их компанию по поддержке кредитной экспансии. Принятие Инвестиционного кодекса и Закона об инвестициях так и не активизировало инвестиционный процесс. Так было и со многим другим, что рекомендовал сделать МВФ. Все делалось, если делалось, в чисто неповторимом белорусском стиле. Либо формально, либо с подменой содержания формой. Кроме того, ни правительство, ни Нацбанк Беларуси не принимают окончательных решений по ключевым вопросам. В Беларуси существует один центр власти, единолично принимающий эти решения. К примеру, ни Нацбанк, ни правительство не могли предвидеть развернувшуюся "калийную войну" с российским "Уралкалием", что повлекло за собой ограничение поставок нефти из России и катастрофическое сокращение валютных поступлений. И это все прекрасно понимает МВФ.

Но вернемся к саммиту тройки Таможенного союза. Развернувшиеся на нем дискуссии вновь показали целый ворох противоречий между его участниками. Президент Казахстана упрекал Москву, что не предоставляется нормальный транзит товаров через российскую территорию, имеются трудности доступа казахстанской продукции на российский рынок, используются разного рода нетарифные ограничения. Глава Беларуси в который раз напомнил В.Путину, что российская сторона применяет изъятия из режима свободного доступа энергоресурсов в Беларусь. Имея в виду в первую очередь экспортные пошлины от продажи нефтепродуктов, изготовленных из российской нефти, которые Беларусь перечисляет в российский бюджет. А это около 4 млрд долларов, за которые А.Лукашенко обещал построить в Беларуси "Эмираты". В принципе, претензии справедливы. На то и таможенный союз, чтобы внутри него не было никаких пошлин. Под напором критики союзников российская сторона вынуждена была пообещать не взимать эти пошлины с 1 января 2015 года.

Арабских Эмиратов в Беларуси, конечно, не будет. Эти миллиарды быстро разойдутся. На погашение внешних займов, на пополнение валютных резервов, которые сегодня снова достигли критической величины, на повышение зарплаты электорату. Как раз в 2015 году президентские выборы. В общем, проедим, как и прежде. Но бессмертная белорусская экономическая модель в который раз удержится на поверхности. Если не повторится финансовый кошмар 2011 года. До 1 января 2015 года еще надо дожить.

КАРЦІНА ДНЯ

## *Дзярждоўг расце*

*Дзяржаўны доўг Беларусі на 1 кастрычніка 2013 года склаў 144,3 трлн рублёў і павялічыўся ў параўнанні з пачаткам 2013-га на 15,5 трлн рублёў, або на 12,1%.*

СІТУАЦЫЯ

## Генерал Мальцаў, выйсці са строю!

*У суботу, у выхадны дзень, Аляксандр Лукашэнка прыняў тэрміновыя кадравыя рашэнні.*

Генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў вызвалены ад пасады дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі і прызначаны старшынёй Дзяржаўнага пагранічнага камітэта. Палкоўнік Аляксандр Боечка, адпаведна, зняты з пасады галоўнага пагранічніка краіны. Што ж здарылася?

Калі генерал-палкоўніка пераводзяць на пасаду, якую займаў палкоўнік, то элементарная логіка падказвае, што гэта не проста так. Нешта падобнае ў Беларусі ўжо было: кіраўнікоў канцэрнаў вызвалялі ад займаемых пасад і прызначалі дырэктарамі заводаў — выпраўляць сітуацыю. Хутчэй за ўсё, у выпадку з Мальцавым і Боечкам мы маем нешта падобнае.

Аляксандр Боечка быў прызначаны кіраваць Дзяржаўным пагранічным камітэтам крыху больш за год таму, пасля скандальнага "плюшавага дэсанту". Тады з-за скандалу пасады пазбавіўся Ігар Рачкоўскі — блізкі сябра старэйшага сына кіраўніка дзяржавы, памочніка прэзідэнта па пытаннях нацыянальнай бяспекі Віктара Лукашэнкі.

Праз некаторы час Аляксандр Лукашэнка нават быў вымушаны проста супакойваць пагранічнікаў. *"Некаторыя размовы, што, як мяне інфармуюць, ходзяць у пагранічным ведамстве, нібыта цяперашні кіраўнік не мае доступу да прэзідэнта, — усё гэта поўнае трызненне! У кіраўніка пагранічнага ведамства ёсць прамая сувязь з прэзідэнтам у любы час сутак! Прамая сувязь — і ён гэта ведае. І я папрашу, каб вы давялі гэта там да некаторых сваіх афіцэраў. Для мяне палкоўнік Боечка — гэта такі ж афіцэр, як і ўсе папярэднія кіраўнікі памежнай службы"*, — запэўніваў Аляксандр Лукашэнка.

Аказалася, што ўсё ж такі нейкі "не такі". Бо як быў Боечка палкоўнікам на момант прызначэння, так у гэтым званні і застаўся. Хаця звычайна, атрымаўшы высокую пасаду, кіраўнікі сілавых ведамстваў мяняюць і зоркі на пагонах.

У той жа час пра якія-небудзь гучныя скандалы ці праколы пагранічнай службы ў Беларусі чутно не было. Хаця...

Раніцай 10 кастрычніка ў Валынскай вобласці разбіўся маленькі самалёт Ан-2. Загінулі пілот і пасажыр — жыхары Украіны. Для нас у дадзеным выпадку самае важнае тое, што поле вакол месца трагедыі было ўсеяна цыгарэтамі беларускай вытворчасці. Гэта і дазволіла выказаць здагадку, што самалёт выкарыстоўваўся кантрабандыстамі для перавозкі грузаў з Беларусі ва Украіну. І каб не трагедыя, то пра гэты пералёт не ведалі б ні беларускія, ні ўкраінскія пагранічнікі.

На просьбу пракаментаваць дадзеную інфармацыю ў прэсслужбе Дзяржпагранкамітэта 11 кастрычніка заявілі: *"Інфармацыя вывучаецца, яна патрабуе праверкі, у тым ліку сумесна з украінскім бокам. Пакуль ніякіх каментарыяў няма".* Выглядае так, што адпаведныя службы правялі праверку і даклалі свае высновы Аляксандру Лукашэнку. Як вынік — кадравыя ўказы.

І тым не менш застаецца адкрытым галоўнае пытанне: дык ці на замку наша дзяржаўная мяжа? Чаму маленькія самалёты лётаюць праз яе туды-сюды незаўважанымі? Тым больш што ў выпадках, пра якія мы ведаем, перавозілі плюшавых мядзведзікаў і кантрабандныя цыгарэты. Але вельмі часта тыя ж самалёты Ан-2 выкарыстоўваюцца для высадкі дэсанту...

Відавочна, што мяжа не закрыта. І "дзіркі" ў сістэме яе аховы зараз затыкаюцца генераламі.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ІНІЦЫЯТЫВА

## Дзесяць галоўных пытанняў

*Ініцыятары кампаніі "Народны рэферэндум" вызначылі дзесяць базавых пытанняў, з якіх трэба пакінуць пяць — найбольш важных і актуальных. Менавіта гэтыя пяць пытанняў прадстаўнікі апазіцыі маюць намер прапанаваць уладам для вынясення на ўсенароднае галасаванне.*

***1. Ці згодныя вы з тым, што ў выпадку, калі дзяржава не можа даць неабходнае бясплатнае лячэнне грамадзяніну да 18 гадоў, яна павінна аплаціць такое лячэнне ў любым іншым месцы, дзе яго правядуць?***

***2. Ці згодныя вы, што кіраўнікі выканаўчай улады ўсіх узроўні павінны абірацца прамым тайным галасаваннем і мець паўнамоцтвы па фарміраванні і распараджэнні бюджэтам гэтай тэрытарыяльнай адзінкі?***

***3. Ці згодныя вы, што ўрад Беларусі павінен зрабіць усё неабходнае, каб падпісаць пагадненне з ЕС аб зоне свабоднага гандлю?***

***4. Ці згодныя вы, што неабходна ўнесці ў Выбарчы кодэкс палажэнне аб тым, што асоба, якая займала пасаду прэзідэнта два тэрміны, не можа быць зарэгістравана кандыдатам у прэзідэнты?***

***5. Ці згодныя вы, што ўрад павінен прыняць неабходныя меры для стварэння адмысловых ільготных умоў вядзення бізнесу для грамадзян Беларусі, у тым ліку прыняць закон аб малым і сярэднім бізнесе?***

***6. Ці згодныя вы, што неабходна заканадаўча замацаваць, што расходы як на адукацыю, так і на ахову здароўя не могуць быць меншымі за 8% ад ВУП?***

***7. Ці згодныя вы, што ў Беларусі не павінна быць замежных ваенных баз?***

***8. Ці згодныя вы, што ўсе праграмы і інстытуты, якія фінансуюцца бюджэтнымі грашыма, павінны даваць дэталёвую і публічную справаздачу пра даходы і расходы, акрамя выпадкаў, якія ахоўваюцца заканадаўствам пра ваенную і дзяржаўную тайну?***

***9. Ці згодныя вы, што рашэнні, якія карэнным чынам уплываюць на лёс і будучыню краіны ці асобнага рэгіёну (у тым ліку кітайскі парк і АЭС, ваенныя базы), павінны прымацца праз правядзенне рэферэндуму адпаведнага ўзроўню?***

***10. Ці згодныя вы ўнесці змяненні ў Выбарчы кодэкс, каб кандыдаты на выбарах любога ўзроўню мелі права накіроўваць сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі рознага ўзроўню адпаведных акруг з правам вырашальнага голасу?***

Нагадаем, кампанія "Народны рэферэндум" ініцыявана рухам "За Свабоду", грамадзянскай ініцыятывай "Гавары праўду!" і Партыяй БНФ у маі гэтага года. Пазней да іх далучылася Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) і аргкамітэт па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу.

### ТЫМ ЧАСАМ

Першая крытыка прапанаваных пытанняў ужо прагучала. Некаторыя грамадскія актывісты выказалі неразуменне, чаму няма пытання пра вызваленне палітзняволеных. Справа ў тым, што па беларускім законе персанальныя пытанні на рэферэндум выносіць нельга, а з фармальна юрыдычнага пункту гледжання і Мікола Статкевіч, і Алесь Бяляцкі, і іншыя вязні сядзяць па звычайных крымінальных артыкулах. Таму ўнясенне такога пытання азначала б, што ініцыятыва па правядзенні рэферэндуму не будзе зарэгістравана Цэнтрвыбаркамам.

Так што праз рэферэндум палітвязняў не вызваліш. Трэба шукаць іншыя шляхі.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ПРЭЦЭДЭНТ

## За што?




Гамяльчанін Юрый Рубцоў, калі ехаў у Мінск, каб паўдзельнічаць у шэсці на Дзяды, не думаў не гадаў, што трапіць у міліцыю. Не, ён не "размахваў рукамі, не замінаў працы грамадскага транспарту, не выкрыкваў палітычных лозунгаў" — нічога гэтага не было. Прычынай затрымання стала... майка з красамоўным надпісам.

Яшчэ перад пачаткам акцыі міліцыянеры папрасілі мужчыну зняць майку. Ён у адказ папрасіў паказаць закон, дзе было б напісана, якія майкі насіць нельга. На тым і разышліся. Але пасля акцыі Юрыя Рубцова ўсё ж затрымалі. Прычым, што цікава, і на наступны дзень у суд прывезлі ў той жа майцы.

У міліцыі, а потым і ў судзе ён тлумачыў: "Лукашэнка сказаў, што сыдзе, калі яго пра гэта папросіць народ. Вось я і прашу".

Як за гэта можна пакараць чалавека? Па якім артыкуле на яго складаць пратакол? Супрацоўнікі міліцыі не сталі ламаць галаву і пайшлі пратаптанай дарогай — пратакол склалі "за непадпарадкаванне міліцыі".

Ясна, што загад зняць майку — незаконны, таму выконваць яго Рубцоў быў не абавязаны. Але суддзя **Дзмітрый Паўлічэнка** палічыў інакш і прысудзіў супрацоўніку Гомельскага цэнтра будаўніцтва і рамонту трое сутак арышту. Засталося, праўда, пытанне: "За што?" Тым больш што сведкі пацвердзілі: Рубцоў паводзіў сябе спакойна і карэктна.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПАД ГРАДУСАМ

## *Цёпла і дажджліва*

*"На гэтым тыдні захаваецца цёплае надвор'е, але яно будзе сырое, ветранае і з частымі дажджамі"*, — паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Белгідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.**

Паводле яго слоў, "большая частка тыдня пройдзе пад знакам актыўных атмасферных франтоў".

**У сераду** чакаецца самае дрэннае на тыдні надвор'е. Ноччу на большай частцы тэрыторыі, а днём месцамі пройдуць моцныя дажджы. Тэмпература цягам сутак плюс 4—10°С, па паўднёвым усходзе — плюс 10—14°С.

**У чацвер** на большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя дажджы, днём чакаецца ўзмацненне ветру з парывамі да 15—18 м/с. Ноччу плюс 1—7°С, днём ад плюс 3 па паўночным усходзе да 10°С па паўднёвым захадзе краіны.

**У пятніцу** ноччу на большай частцы тэрыторыі, а днём месцамі чакаюцца кароткачасовыя дажджы. Ноччу плюс 1—7°С, днём плюс 3—10°С.

*"У выхадныя дні атмасферныя франты пакінуць нашу краіну, і з ростам атмасфернага ціску дажджы на большай частцы тэрыторыі спыняцца"*, — зазначыў сіноптык.

**У суботу** месцамі кароткачасовыя дажджы. Тэмпература ноччу 0 — плюс 6°С, днём плюс 5—10°С.

**У нядзелю** месцамі па паўднёва-заходняй палове кароткачасовыя дажджы. Тэмпература ноччу плюс 2—8°С, днём плюс 6—12°С.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
5 ЛІСТАПАДА 2013 г.

ТЭМА ДНЯ

# Ці будуць баставаць прадпрымальнікі?

*Учора ў Мінку сабраліся прадпрымальнікі з ўсёй Беларусі, каб абмеркаваць пытанне аб тэхрэгламенце Мытнага саюза па бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці. Усяго — каля 400 чалавек.*

Адкрываючы форум, старшыня савета РГА "Перспектыва" **Анатоль Шумчанка** нагадаў, што 31 кастрычніка віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч, кіраўнік Савета па развіцці прадпрымальніцтва, паведаміў аб уваходжанні ў сілу патрабаванняў тэхрэгламенту аб бяспецы тавараў легпрама ўжо з 1 снежня 2013 года, хаця раней была дасягнута дамоўленасць працаваць па старых правілах да 1 ліпеня 2014 года.

*"Гэтая вераломная заява была зроблена вельмі несвоечасова,* — падкрэсліў Шумчанка. — *За ўвесь час прэзідэнцтва спадара Лукашэнкі такога не было. Так, паміж намі былі непаразуменні, але калі мы садзіліся за стол перамоў, то пасля выконваліся ўсе дамоўленасці".*

На форум былі запрошаны і прадстаўнікі Міністэрства гандлю, Мінэканомікі і Дзяржкамітэта па стандартызацыі.

*"Зала была перапоўнена, і ў ёй панавала вельмі высокае напружанне,* — заявіў пасля форуму Анатоль Шумчанка. — *У сярэдзіне форуму з'явіўся чыноўнік Мінгандлю, які адказваў на пытанні. Мы прынялі рэзалюцыю і вырашылі 25 лістапада правесці яшчэ адзін форум, але ўсе прысутныя сказалі, што з 1 снежня не будуць працаваць на тых умовах, пра якія было заяўлена".*

У той жа час Шумчанка падкрэсліў, што прадпрымальнікі ўсё ж такі спадзяюцца на канструктыўны дыялог з уладамі.

ПРАТЭСТ

## Сцерці з памяці?

*Падчас акцыі "Дзяды" актывісты незарэгістраванай арганізацыі "Малады фронт" пачалі збор подпісаў пад зваротам у Савет міністраў і Мінгарвыканкам з патрабаваннем распачаць дэкамунізацыю беларускага грамадства.*

Калі дакладней, то зварот утрымлівае патрабаванне вярнуць цяперашняй вуліцы Леніна яе гістарычную назву — вуліца Францысканская. Актывісты ўпэўнены, што Уладзімір Ленін з'яўляецца адным з самых крывавых дыктатараў у гісторыі чалавецтва і на такім "прыкладзе" можна выхаваць толькі злачынцаў і вар'ятаў.

На "Дзяды" маладафронтаўцы сабралі больш за сто подпісаў і працягнуць гэта рабіць да 7 лістапада. У чарговую гадавіну камуністычнага перавароту ўсе падпісныя аркушы будуць перададзены ў Мінскі і гарсаветы іншых гарадоў і ў Саўмін.

ФАКТ



## Канадскага беларуса «пахрысцілі» на лёдзе

*Канадскі хакеіст Джэф Плат учора правёў першую трэніроўку ў складзе нацыянальнай каманды Беларусі.*

Канадскі форвард **Джэф Плат**, які нядаўна атрымаў права абараняць колеры зборнай Беларусі, учора правёў першую трэніроўку ў складзе нацыянальнай каманды нашай краіны, паведамляе goals.by.

Нагадаем, галкіпер **Кевін Лаланд** і форвард Джэф Плат, якія гуляюць у ХК "Дынама-Мінск", атрымалі дазвол ад Міжнароднай федэрацыі хакея выступаць за зборную Беларусі.

Адпаведнае пацвярджэнне ад Міжнароднай федэрацыі хакея было атрымана Федэрацыяй хакея Беларусі 2 кастрычніка.

Плат і Лаланд атрымалі беларускае грамадзянства яшчэ ў снежні 2011 года, аднак да цяперашняга моманту не маглі гуляць за нацыянальную зборную Беларусі. Па правілах Міжнароднай федэрацыі хакея, каб атрымаць права выступаць за іншую краіну, замежнік павінен не толькі атрымаць грамадзянства, але і бесперапынна адгуляць за клуб з гэтай краіны не менш за два гады (Кевін Лаланд). А калі хакеіст ужо гуляў за зборную іншай дзяржавы, то яму трэба адгуляць за клуб новай краіны 4 гады запар (Джэф Плат — уладальнік залатых медалёў юніёрскага (да 18 гадоў) чэмпіянату свету ў складзе зборнай Канады ў 2003 г.). Паколькі Кевін Лаланд выступае за "Дынама-Мінск" са жніўня 2011 года, а Джэф Плат (бесперапынна) — са жніўня 2009-га, то іх каранцін скончыўся ў жніўні 2013 года.

МАЙЦЕ НА ЎВАЗЕ

## У мінскім метро сталі часцей красці

*За 9 месяцаў гэтага года ў сталічнай падземцы зарэгістравана 381 злачынства супраць 307, учыненых за аналагічны перыяд 2012-га. Ільвіную іх долю складаюць крадзяжы маёмасці пасажыраў. Пры гэтым з 173 такіх злачынстваў удалося раскрыць ўсяго толькі 26.*

Калі раней у міліцэйскія зводкі ў асноўным траплялі канчатковыя станцыі метрапалітэна і перасадачны вузел "Кастрычніцкая"—"Купалаўская", то цяпер сітуацыя некалькі змянілася. Па-ранейшаму больш за ўсё злачынстваў у мінскім метро рэгіструецца на станцыі "Пятроўшчына", за ёй ідуць "Інстытут культуры" і "Пушкінская". Часцей за ўсё злачынствы здзяйсняюць з 14.00 да 22.00 — менавіта ў гэты перыяд зафіксавана дзве трэці крадзяжоў.

ЧУЛІ?

## Ад пенсіі адмовілася больш за 5 тысяч беларусаў

— *Норма аб прэміяльным павелічэнні памеру пенсіі за адкладзены выхад на пенсію дзейнічае ў краіне яшчэ з верасня 1998 года. З кастрычніка 2012 г. павелічэнне за доўгую працу без пенсіі стала больш высокім*, — заявіла падчас анлайн-канферэнцыі на БЕЛТА міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна. — *Ужо больш за 5 тысяч пенсіянераў скарысталіся дадзеным варыянтам павелічэння ўласнай пенсіі.*

Калі ўлічыць, што ў Беларусі больш за 2,5 мільёна чалавек — пенсіянеры і толькі за мінулы год у пенсіённую сістэму ўлілася больш за 133,8 тысячы чалавек, то, напэўна, больш правільна сказаць не "ўжо", а "толькі" 5 тысяч пенсіянераў адмовіліся ад пенсіі.

Нагадаем, што папраўкі ў пенсіённае заканадаўства даюць магчымасць паклапаціцца аб больш высокай пенсіённай дапамозе. Для таго каб у перспектыве атрымліваць пенсію ў большым памеры, ад яе пры дасягненні пенсіённага ўзросту трэба адмовіцца і працягваць працаваць. Тады за першы поўны год без пенсіі яна будзе павялічана на 6% заробку, які прымаецца для вылічэння пенсіі. За два гады памер павышэння складзе ўжо 14%, за тры гады — 24%, за чатыры гады — 36% і будзе расці далей прагрэсіўна.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

РЫТАРЫЧНАЕ ПЫТАННЕ

## Дык чыю гісторыю яны прысабечылі?

У Расіі падрыхтавана адзіная канцэпцыя для падручнікаў гісторыі і гэты дакумент справакаваў дыскусію на тэму: ці павінна гісторыя быць праўдзівай?

Пісьменнік **Міхаіл Велер** на радыё "Эхо Москвы" ясна выказаўся на гэты конт.

"Мы, вядома, не можам напісаць у падручніку, што Масковія да Кіеўскай Русі не мела ніякага дачынення, не з'яўлялася яе спадчынніцай, не з'яўлялася яе пераемніцай. Што Кіеўская Русь разам з Літвой, якая стала Белай Руссю, разам з Польшчай утварылі вялікую заходнюю дзяржаву славян — культурную, пісьменную, магутную, прызнаную ўсёй Еўропай. А Масковія на той час была маскоўскім улусам Арды, пазначалася на еўрапейскіх картах або Татарыя, або Тартарыя, або Масковія. І да заходнееўрапейскай дзяржавы славян наогул не мела ніякага дачынення. І Аляксандр Неўскі быў маскоўскім беклербекам Арды, гэта значыць маскоўскага ўлуса, і збіраў даніну, "крышуясь" вялікімі "пацанамі" з ардынскай стаўкі. Такая гісторыя выйдзе тады цалкам непрыгожая. А тое, што мы засланілі сабой Еўропу, — прыгожая версія, шкада, што няпраўда".

Дык чыю гісторыю, чыю славу, чый аўтарытэт прысабечыла сабе расійская афіцыйная гісторыя?

Нашу!

Хаця беларусы пра гэта ў большасці сваёй нават не ведаюць, лічаць, што нашы землі былі забітымі, што цывілізацыя да нас прыйшла ад расійскіх цароў. Хаця расійскія інтэлектуалы, як высвятляецца, добра ведаюць, што іхнія гісторыкі наўмысна абакралі і ўкраінцаў, і беларусаў.

**Алег СНОЎ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Чым напалохаў міліцыю Віктар Талмачоў?

*Старасце сталічнага мікрараёна "Усход", дацэнту кафедры цеплаэнергетыкі БНТУ Віктару Талмачову пагражае адміністрацыйнае пакаранне. 28 кастрычніка ён апынуўся ў міліцыі Першамайскага раёна. Трое ў цывільным схапілі яго каля аўтастанцыі "Каліноўскага", пасадзілі ў машыну з амапаўцамі і адвезлі ў РУУС.*

Там затрыманаму патлумачылі, што яго падазраюць у правядзенні несанкцыянаванай акцыі. Міліцыянеры склалі так званы пратакол апытання і адпусцілі старасту мікрараёна дадому. "*Я не даваў ніякіх падстаў для затрымання. Цікава, што раней, 23 кастрычніка, мяне наведалі дома і адтуль адвезлі ў міліцыю. Там яны папрасілі мяне забяспечыць парадак на момант правядзення саміту. Гэта мяне, мякка кажучы, здзівіла, бо я ж меркаваў, што ў нас чагочага, а сілавых структур хапае для таго, каб сачыць за парадкам падчас такіх мерапрыемстваў. Цікава, чым тады яны займаліся ў дзень правядзення саміту? За месяц да гэтага я падаваў заяўку ў Мінгарвыканкам, каб мне дазволілі правесці збор подпісаў жыхароў раёна супраць ушчыльнення забудовы ў Першамайскім раёне. Думаю, што пасля гэтага я патрапіў у так званы чорны спіс*", — кажа Віктар Талмачоў.

1 лістапада 73-гадовы навуковец наведаў міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча і паскардзіўся на дзеянні яго падначаленых. Віктар Талмачоў распавёў "Народнай Волі":

— *У мяне склалася ўражанне, што ён гэтую справу возьме пад свой кантроль. Праўда, ужо 3 лістапада патэлефанаваў участковы і запатрабаваў, каб 5-га я наведаў апорны пункт. Думаю, што там на мяне складуць пратакол. Але не гэта мяне палохае. Больш непакоіць тое, што ў нашым раёне хутка будуць такія ўмовы пражывання, якія не кожны здольны вытрымаць. Пра ўшчыльненне загаварылі не так даўно, але гэта кранае нас усіх, бо размова ідзе пра наша здароўе. Менавіта пры цяперашнім старшыні Мінгарвыканкама Ладуцьку рэалізуецца гэтая, лічу, антысацыяльная і антыэкалагічная палітыка. Людзі, якія раней трымаліся паасобку, сталі аб'ядноўвацца. Сталі гучаць галасы пра самакіраванне, пра неабходнасць правядзення рэферэндуму, і, відаць, менавіта гэта палохае ўлады.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

СТАЛІЦА

## Даўжыня другой МКАД складзе 157 кіламетраў

*Будаўніцтва Другой акружной дарогі вакол Мінска плануецца завяршыць да 2017 года.*

Праўда, зараз узніклі праблемы з фінансаваннем будаўніцтва Другой акружной дарогі вакол Мінска. Пра гэта на прэс-канферэнцыі, прымеркаванай да Дня аўтамабіліста і дарожніка, паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення аўтамабільных дарог Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі **Яўген Ракала.**

Як паведамлялася, будаўніцтва Другой акружной дарогі вакол Мінска плануецца завяршыць да 2017 года. Да 2014 года меркавалася ўзвесці трасу на ўчастку ад М-3 да М-6 працягласцю 44 кіламетры. Ды вось узнікла праблема з грашыма... Тым не менш планы ў цэлым не мяняюцца.

Агульная даўжыня новай МКАД складзе 157 кіламетраў. Будзе арганізаваны чатырохпалосны рух (па 2 паласы ў кожным напрамку) з асвятленнем на ўсёй працягласці дарогі. Ездзіць па трасе можна будзе з хуткасцю 120 км у гадзіну.

Існуючая МКАД у суткі прапускае да 110 тысяч аўтамабіляў. Праўда, другая акружная дарога вакол Мінска будзе мець ніжэйшую прапускную здольнасць, бо яна павінна выконваць таксама транзітную функцыю.

НЕОФИЦИАЛЬНАЯ ВСТРЕЧА

*Клаудио ГАЛАРСА, министр фармацевтической промышленности Эквадора :*

# «Президент повысил зарплату врачам с 600 до 2,5 тысячи долларов»

*В составе делегации Эквадора, которая во главе с президентом этой страны Рафаэлем Корреа Дельгадо в конце прошлой недели посетила Беларусь, был и выпускник Белорусского государственного медицинского университета Клаудио ГАЛАРСА. Сегодня он — министр фармацевтической промышленности Эквадора.*

*В плотном графике минских встреч Клаудио нашел время, чтобы посетить свою альма-матер, и даже принял участие в международной научно-практической конференции "Актуальные вопросы внутренних болезней", где выступил с докладом. В БГМУ состоялась и наша беседа.*

*Что происходило за закрытыми дверями во время официальных белорусско-эквадорских встреч? Как Эквадор строит социальное государство? Об этом и не только господин Галарса рассказал в эксклюзивном интервью "Народной Воле".*

**— Господин Галарса, если судить по вашей карьере, диплом Белорусского медицинского университета — хорошая путевка в жизнь в вашей стране?**

— В 1992 году я закончил Минский государственный медицинский институт (в настоящее время это Белорусский государственный медицинский университет), потом было три года ординатуры в Минске, год работал врачом, а затем вернулся в Эквадор. На родине я обязан был год отработать в государственном здравоохранении, потом сдать экзамен, чтобы получить частную практику. Я считался доктором из Европы. В нашей стране получить такое образование престижно, для пациентов такой врач авторитетнее, чем доктор с местным дипломом. Система высшего образования в Эквадоре хромает. За последние несколько лет было закрыто более 20 частных университетов по причине того, что там давали некачественные знания.

Хочу сказать, что с дипломом минского меда я прекрасно себя чувствовал и в Барселоне, где проходил стажировку, а также в Израиле и в США, где работал врачом.

**— Конкуренция в медицинской среде Эквадора высокая?**

— Конкуренция высокая. Но мне кажется, дело не только в дипломе. Белорусский государственный медицинский университет дает очень хорошую подготовку, но как потом этими знаниями распорядиться — зависит от человека. Можно всю жизнь просидеть в больнице, не открыв даже университетских конспектов, а можно постоянно совершенствоваться, интересоваться новинками в медицине, самому участвовать в научных процессах. Тогда ты будешь иметь профессиональный успех. Мои однокурсники по Минскому мединституту сегодня работают в клиниках США, Европы.

**— Вы — врач по образованию. Как получилось, что возглавили Министерство фармацевтической промышленности?**

— Я работал в частной клинике и одновременно занимался клиническими испытаниями. Область моих интересов — ревматология, иммуногенетика. Шесть лет назад я стал аспирантом БГМУ, получил разрешение Министерства здравоохранения Беларуси учиться заочно. В 2011 году защитил кандидатскую диссертацию на 2-й кафедре внутренних болезней БГМУ, моим научным руководителем был известный в Беларуси врач-ревматолог, профессор Николай Федорович Сорока.

Два года назад я отправил проект своих исследований и рекомендации в Гарвардский университет и получил оттуда приглашение на двухгодичное обучение. Но не бесплатное, требовалось 250 тысяч долларов. Приглашение из Гарварда в нашей стране очень высоко ценится и поддерживается на государственном уровне, это расценивается не только как личный успех. Государство согласилось оплатить учебу, со мной захотел познакомиться министр науки и техники Эквадора. После беседы с ним я был приглашен в Администрацию президента, и мне предложили должность министра фармацевтической промышленности, попросили помочь с преобразованиями в сфере здравоохранения. Мне показалось, что я могу сделать что-то хорошее для страны. И я согласился. Но только на два года. Все же нельзя не использовать возможность поучиться в Гарварде, в планах — создать на медицинском факультете университета в моем родном городе Куэнка научную лабораторию по исследованиям в области иммуногенетики.

Сегодня Эквадор переживает подъем, мы находимся в числе трех самых быстрорастущих экономик Латинской Америки. Старт преобразованиям был дан в 2007 году, когда президентом Эквадора был избран Рафаэль Корреа Дельгадо, в феврале этого года — переизбран на новый срок. Корреа — бывший преподаватель университета, очень образованный человек. Он получил степень доктора в США и степень магистра экономики в Бельгии. Его команда — молодые, образованные, интеллигентные люди. Интеллектуалы. Корреа поставил своей главной целью — модернизацию Эквадора, искоренение в стране нищеты и бедности, обязательное образование и доступность медицинской помощи. Все годы его президентства в социальную сферу направляются большие финансовые ресурсы. Вложения в образование и здравоохранение превысили в 3 раза то, что до Корреа было инвестировано в эти сферы на протяжении 20 лет. Только на стипендии для студентов, которые показали хорошие знания на родине и уехали учиться за рубеж, государство уже потратило 300 миллионов долларов.

**— Когда вы узнали, что вошли в состав делегации, что испытали? С удовольствием посетили Беларусь?**

— Я — член правительства, и этим объясняется мое присутствие в составе делегации, которая, к слову, насчитывала 150 человек. Вместе с президентом Минск посетило 12 министров, были специалисты из разных сфер, журналисты.

Наш президент улетел 1 ноября, а члены делегации остались. Я как глава межнациональной комиссии по науке, технике и фармацевтической промышленности присутствовал на заседаниях, был на встречах с министром здравоохранения Беларуси Василием Жарко, министром образования Сергеем Маскевичем и министром архитектуры и строительства Анатолием Черным. Подписан ряд соглашений. Прежде всего по поводу строительства фармацевтических заводов в Эквадоре и строительства университета в городе Ячай, где будет открыт и медицинский факультет. Я хотел бы отметить, что в ходе этого визита мы придавали особое значение сфере науки. Последние годы Эквадор приглашает ученых из разных стран, чтобы они поделились опытом, помогли нам в подготовке кадров. Беларусь в этом плане нам очень интересна. Особенно ваш опыт в сфере среднего специального образования. У нас в стране нет колледжей, училищ. Выпускники школ, которые идут работать, — самоучки. В наших планах усилить обмен профессорами, увеличить количество грантов для эквадорцев на обучение в Беларуси. Тем более что опыт такой был. Когда, например, я учился в Минске, нас в мединституте было 10 студентов из Латинской Америки. Нас направляло на обучение в Европу государство. Потом был период, когда эти программы закрылись, в 1990-е годы страна переживала кризис. Сегодня в Беларуси на медицинских факультетах четырех университетов только один студент из Эквадора. Это надо исправлять. Нашей стране нужны не только лечащие врачи, но и хорошие фармакологи, фармацевты, врачи-гигиенисты. И уже, к слову, подписано межведомственное соглашение между нашими странами об обмене студентами и профессорами. И не только в области медицины.



**— А почему Беларусь? У нас в стране много претензий к системе образования, эта область бесконечно реформируется, Беларусь — единственная страна в Европе, которая не включилась в Болонский процесс.**

— Были планы сделать систему образования Эквадора по аналогии с немецкой. Но почему-то не получилось. Наверное, слишком разный уровень развития у Эквадора и Германии. И появилась мысль о сотрудничестве с Беларусью.

**— Вы отметили, что в Эквадоре будут строиться фармацевтические заводы. В официальных отчетах о визите президента Эквадора в Беларусь прозвучало, что между нашими странами уже налажено сотрудничество в области производства медикаментов. Не могли бы вы подробнее рассказать об этом сотрудничестве? Что имеется в виду: Эквадор покупает белорусские лекарства или в вашей стране будет налажено производство лекарственных препаратов по белорусским технологиям?**

— Мы хотим получить лицензию на некоторые белорусские препараты и наладить их выпуск у себя на родине. Строительство государственного фармацевтического комплекса в Эквадоре уже начато, из бюджета выделено 160 миллионов долларов. Это будет ряд заводов. Сегодня в нашей стране есть только частные фармацевтические производства. Ежегодно Эквадор тратит до 500 миллионов долларов на закупку импортных лекарственных препаратов. Думаю, что некоторые мы могли бы заменить белорусскими аналогами, и это будет дешевле.

**— Любопытно, а какие белорусские препараты заинтересовали эквадорцев? Белорусы чаще ругают отечественные лекарства, чем хвалят…**

— Мы говорим о дженериках и оригинальных онкологических препаратах: тут, в Беларуси, есть хорошие разработки. Конкретно пока не могу назвать, какие это лекарства. Список их достаточно широк, пока мы его изучаем.

Из собственной практики могу сказать, что белорусские препараты достаточно эффективны и безвредны. Я их прописывал пациентам, когда работал в Беларуси.

**— Наши страны разделяют тысячи километров, мы находимся на разных континентах. Есть ли перспективы успешного сотрудничества, учитывая такую географию?**

— Думаю, что есть. Наши страны очень похожи: и по численности населения — в Беларуси проживает почти 10 миллионов, в Эквадоре — 12,5 миллиона, и по интересам. Мы не конкурируем друг с другом. Мы можем покупать у вас технику, товары, "мозги", а вы у нас — продукты питания (бананы, какао, тунца) и цветы. Эквадор — главный поставщик роз в мире. Беларусь только в год тратит 600 миллионов долларов на закупку роз. Цветы вы закупаете в России, а ведь можно напрямую, из Эквадора. На переговорах в Минске была достигнута такая договоренность. Кроме того, есть планы создать в Беларуси центр по распределению продуктов Эквадора в Россию, Украину и Европу. Мы можем сотрудничать на взаимовыгодных условиях.

**— Вы не понаслышке знаете, как устроена белорусская система здравоохранения. На ваш взгляд, стоит ли Беларуси отказаться от государственного здравоохранения и идти по пути многих стран, которые перешли к системе обязательного медицинского страхования?**

— Белорусская модель здравоохранения, на мой взгляд, очень хорошая. Многое мы хотели бы копировать и перенести в Эквадор. Например, поликлиническую помощь, диспансеризацию, обязательный медицинский осмотр в школах, детских садах. Это же большое завоевание медицины — охватить первичным осмотром большую часть населения, что позволяет выявлять болезни на ранней стадии. Медицина — это в первую очередь здоровье людей, а не коммерция.

Мне кажется, в том, что Беларусь не спешит с переходом на обязательное медицинское страхование, есть плюс. Надо много времени, чтобы грамотно перейти к страховой медицине. Когда начинаются кардинальные изменения и систему пытаются ломать сразу и вносить много изменений в ее функционирование, результаты, как правило, поначалу далеко не положительные. И страдает от этого в первую очередь население.

В то же время по опыту нашей страны, где параллельно развиваются частная медицина, государственная и страховая — когда работник платит некую сумму из зарплаты на здравоохранение, а потом имеет право на получение медпомощи, могу сказать, что страховая медицина — это самая разумная модель организации медицинской помощи.

**— В Беларуси, наверное, нет другой такой сферы, где бы зарплаты так не соответствовали нагрузкам и ответственности, как в медицине. Врачи, особенно молодые специалисты, постоянно жалуются на неадекватную оценку их труда. А как живут врачи в вашей стране?**

— Что сделал президент Корреа? Когда он пришел к власти, врачи в госсекторе получали зарплату в пределах 500—600 долларов, сегодня их зарплата — 2,5 тысячи долларов. То же и в образовании. Учителям за их труд платят сегодня 2 тысячи долларов. Минимальная зарплата в стране — 340 долларов. Естественно, что от них требуется отдача. И поэтому очень актуальным стало такое понятие, как повышение квалификации, постдипломное обучение. Если врач частной практики сам о ней может побеспокоиться, он имеет возможность ездить на конгрессы, то доктору из государственной клиники должно помочь государство. Потому что сегодня врачи государственных медицинских учреждений зачастую пользуются только тем багажом знаний, который получили во время учебы в университете. И тут для нас явный интерес представляет белорусская система постдипломного образования: как учить врача после окончания университета, как его аттестовать, присвоить категорию .

**— А сколько зарабатывают врачи в частных центрах Эквадора?**

— Терапевты — в пределах 10 тысяч долларов, хирурги — больше. *(Продукты в Эквадоре стоят дешевле, чем в Беларуси, овощи-фрукты — вообще копейки. Цены на одежду выше, чем в белорусских магазинах, но не намного. —* **Авт.***)*

**— Знаю, что ваша жена белоруска. И тоже врач. Она приехала с вами?**

— Нет. Мой визит занял всего лишь три дня. К тому же у жены работа, пациенты. В Беларуси у нее нет близких родственников. Моя жена — единственный ребенок в семье. Ее родители уже на пенсии, и они переехали жить к нам, поближе к дочери и внукам. В Эквадоре они уже 6 лет.

**— Клаудио, вы помните Беларусь начала 1990-х, затем приезжали к нам в 2000-е. И вот сейчас в Минске с официальным визитом. Каковы впечатления от нашей страны? Изменения какие-то видите?**

— Минск, как всегда, чистый и прекрасный. Машин только на улицах стало больше. Впечатляет студгородок, новые общежития для студентов-медиков. Но это больше взгляд туриста.

**Мария ЭЙСМОНТ.**



С женой Марией.

